Нашы заступнікі перад Богам 2

Традыцыі і сімвалы Адвэнту 3

Святочная падрыхтоўка: парады для бацькоў 6

Лісты чытачоў 6



Гродна
№23 (481),
10 снежня 2017

www.slowo.grodnensis.by


# Слова Жыцця


ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




## Арыгінальныя і традыцыйныя дэкарацыі на Божае Нараджэнне

Надыходзячыя святы – гэта дасканалы час, каб даць волю сваёй фантазіі і творчым захапленням. Кожны з нас марыць пра тое, каб напярэдадні Божага Нараджэння дом стаў сапраўды прыгожы, выключны, адрозны ад іншых, каб захапляў арыгінальнасцю. Штогод з'яўляюцца новыя трэнды ў дэкарыраванні, а святы ўсё больш набіраюць колеру. На паліцах крам – мноства святочных аздоб. Мільготкія гірлянды, сняжынкі, рознакаляровыя шарыкі прыцягваюць позірк і не дазваляюць з абыякавасцю прайсці міма.


● працяг на с. 4


## Моладзь – надзея Касцёла і грамадства

З 3 па 28 кастрычніка 2018 года ў Ватыкане будзе праходзіць Сінод Біскупаў, прысвечаны праблемам сучаснага маладога пакалення на тэму "Моладзь, вера і распазнанне паклікання". Прыняць непасрэдны ўдзел у перадсінадальнай працы могуць і самі маладыя людзі з розных куткоў свету. Для гэтага трэба адказаць на пытанні прапанаванай анкеты. Яна адрасавана моладзі ва ўзросце 16–29 гадоў.

У інтэрнэце па адрасе youth.synod2018.va створаны спецыяльны рэсурс, дзе можна азнаёміцца з прыкладным планам працы сінода, даведацца пра маладых сведкаў веры, у тым ліку і пра святых, прачытаць пасланні Святога Айца, скіраваныя моладзі. Там жа кожны жадаючы малады чалавек можа запоўніць спецыяльную анкету. Яе мэта – дапоўніць меркаванні біскупскіх канферэнцый і прадставіць рэальны вобраз таго, чым жыве сённяшняя моладзь. Такім чынам, Касцёл прагне прыслухацца да голасу маладых людзей, ад якіх залежыць будучыня грамадства і супольнасці вернікаў.


● працяг на с. 5


"Езус прыходзіць да нас штодня шматлікімі спосабамі і просіць прыняць Яго". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**II НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Мк 1, 1–8**

Пачатак Евангелля Езуса Хрыста, Сына Божага. Як напісана ў прарока Ісаі: "Вось Я пасылаю Анёла Майго перад Табою, які падрыхтуе дарогу Тваю. Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму". З'явіўся Ян, хрысцячы ў пустыні і абвяшчаючы хрост пакаяння для адпушчэння грахоў. І выходзілі да Яго ўся краіна юдэйская і ўсе жыхары Ерузалема, і прымалі ад яго хрост у рацэ Ярдан, вызнаючы грахі свае. Ян жа насіў адзенне з вярблюджай воўны і скураны пояс на бёдрах сваіх і еў саранчу і дзікі мёд. І прапаведаваў, кажучы: "Ідзе за мною мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Ягоных сандалях. Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Святым Духам".

### ДАРОГА ДА БОГА

Кожны чалавек у сваім жыцці пераадольвае разнастайныя шляхі. Яны патрэбны таксама для таго, каб іншыя маглі дайсці да нас. Аднак часам здараецца, што не ўдаецца прайсці якой-небудзь дарогай, бо яна засыпана, пашкоджана, няскончана, непраезная...

Шляхамі, якімі мы імкнёмся наперад, карыстаецца таксама Бог. Ён паслаў у свет свайго Сына, каб праз Яго наблізіцца да людзей: слабых, пакутуючых, зраненых, якія жывуць у нястачы і нявызначанасці, якімі пагарджаюць. Стварыцель прагне наладзіць адносіны з кожным чалавекам, падняць яго і прывесці з каралеўства зла ў Нябеснае Валадарства, вызваліць ад панавання граху і смерці, аддаўшы пад панаванне любові і жыцця. Бог увесь час нанова выходзіць нам насустрач, каб адорваць сваёй моцай і сапраўдным, таму што вечным, шчасцем.

**Што я павінен учыніць, каб Бог мог дайсці да мяне і ахвяраваць сваё збаўленне?**

**Што павінен прыбраць з уласных шляхоў, каб зрабіць іх "праезнымі" для Пана?**

**III НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Ян 1, 6–8. 19–28**

З'явіўся чалавек, пасланы ад Бога; імя ягонае было Ян. Ён прыйшоў дзеля сведчання, каб сведчыць пра Святло, каб усе паверылі праз яго. Не быў ён святлом, але быў пасланы, каб сведчыць пра Святло. І вось сведчанне Яна. Калі юдэі паслалі з Ерузалема святароў і левітаў, каб яны спыталіся ў яго: "Хто ты?", ён абвясціў, і не выракся, і вызнаў: "Я не Хрыстос". І спыталіся ў яго: "Дык хто ж? Ты Ілля?". І сказаў: "Не". "Ты прарок?". І ён адказаў: "Не". Тады сказалі яму: "Хто ж ты, каб нам адказаць тым, хто паслаў нас. Што гаворыш ты пра самога сябе?". Ён сказаў: "Я голас таго, хто кліча ў пустыні: раўняйце дарогу Пану, як сказаў прарок Ісая". А пасланцы ж былі з фарысеяў. І яны спыталіся ў яго: "Тады чаму ты хрысціш, калі ты ні Хрыстос, ні Ілля, і ні прарок?". Ян сказаў ім у адказ: "Я хрышчу вадою. А сярод вас стаіць Той, каго вы не ведаеце, Той, хто ідзе за мною, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях ягоных". Было гэта ў Бэтаніі, за Ярданам, дзе хрысціў Ян.

### ЗАСВЕДЧЫЦЬ ПРА ХРЫСТА

III Нядзеля Адвэнту ставіць перад нашымі вачыма постаць св. Яна Хрысціцеля – сапраўднага сведку, які да канца верыў у тое, што Хрыстос – Месія. Ён прыгадваў аб самым важным, паколькі ведаў, што быў пасланы, каб падрыхтаваць дарогу Эмануэлю. Новазапаветны прарок разумеў даручанае Панам заданне. Мэта яго місіі палягала на тым, каб засведчыць, што Езус – "Уцелаўлёнае Слова", "Сапраўднае Святло"– праўдзівы Бог.

Ян Хрысціцель стаў голасам, які гучаў з-за Хрыста. Голасам, які не баяўся і не сароміўся вылучацца сярод іншых галасоў. Яго выказванні ясныя і шчырыя. Давайце ўслухаемся ў гэты адвэнтавы "голас таго, хто кліча ў пустыні", і прымем словы прарока глыбока ў сэрца.

**Ці здольны я даваць праўдзівае сведчанне пра Езуса?**
**Што я раблю, каб іншыя лепш пазналі "Сапраўднае Святло"?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Давайце імкнуцца да лагоднасці і пакоры

*Наперадзе чарговыя дні радаснага чакання прыходу Пана. Гэта асаблівы час падрыхтоўкі да такой вялікай падзеі, як Божае Нараджэнне. Няхай Адвэнт кожнаму нагадае пра тое, што ў наша зямное вымярэнне ўваходзіць надзвычайная рэчаіснасць.*

Чаканне свят можа выглядаць па-рознаму. Рыхтуючыся да іх, людзі не заўсёды канцэнтруюцца на самым важным. Засяроджваюць сваю ўвагу на выбары падарункаў, гатаванні страў і арганізацыі стала, высыланні віншавальных паштовак. На жаль, знешняе часта прыцягвае больш, чым справы душы і збаўлення.

Кожны падобны перыяд павінен, у першую чаргу, захвоціць чалавека прыглядзецца да самога сябе, да сваіх слабасцей. Аднак заўсёды – у прысутнасці Бога. У Адвэнце нам неабходна клапаціцца аб далейшай перспектыве для ўсяго, што робім і плануем. Часта, каб гэта зразумець, трэба запаволіцца, а нярэдка нават і спыніцца. Затрымацца і запрасіць Пана ў сваю душу, каб Ён пачаў дзейнічаць у нашым жыцці. Галоўнае – клапаціцца пра сэрца, каб яно было адкрытым на любячага Збаўцу.

На пачатку Адвэнта 1936 года св. Фаустына пісала: "Маці Божая навучыла мяне, як падрыхтавацца да свята Божага Нараджэння. Сказала: «Дачка мая, імкніся да лагоднасці і пакоры, каб Езус, які заўсёды жыве ў тваім сэрцы, мог адпачыць. Адарый Яго ў сваім сэрцы, не выходзь з сябе… Пастаянна будзь з Ім – і Ён будзе тваёй моцай»" (Дз. 785). У гэты час ласкі павінна абвастрацца адчувальнасць на Езуса, які прыходзіць да нас у кожную хвіліну жыцця: у Эўхарыстыі, Божым слове, малітве, падзеях і – што самае важнае, але часцей за ўсё найбольш утоенае – у прысутнасці іншага чалавека.

Часта гаворым, што "час ляціць хутка", "дні здаюцца карацейшымі". Таму варта пастарацца, нягледзячы на велізарную колькасць абавязкаў і святочную "ліхаманку", выкарыстаць астатнія дні Адвэнту для таго, каб у пэўнай меры суцішыцца і запаволіць пульсуючы спешкай рытм жыцця.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце ў правільным духу падрыхтуемся да надыходзячых свят. Памятайма, што адпаведная падрыхтоўка адбываецца ў звышнатуральным вымярэнні. Толькі глыбока ў душы можам перажыць вялікую таямніцу Божага Уцелаўлення і толькі сэрцам можам спяваць разам з Анёламі "Хвала Богу на вышынях…".




# ЗАСТУПНІК МІСТЫКАЎ: СВ. ЯН АД КРЫЖА



*У іканаграфіі св. Яна ад Крыжа прадстаўляюць у кармэліцкім хабіце. Яго атрыбутамі з'яўляюцца адкрытая кніга, распяцце, лілія, арол ля ног.*

***Належыць да найбольш вядомых містыкаў Касцёла. Яго працы, поўныя захаплення над таямніцай Святой Тройцы, увесь час чытаюцца па-новаму. Іх каментавалі, між іншым, св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус, св. Эдзіт Штайн і св. Ян Павел II. Яна ад Крыжа лічаць адным з галоўных стваральнікаў літаратурнай іспанскай мовы. Яго проза поўная паэтычных выразаў, а паэзія насычана духоўнай сімволікай.***

#### РЭФАРМАТАР КАРМЭЛІТАЎ І СЯБАР СВ. ТЭРЭЗЫ АВІЛЬСКАЙ

Будучы святы нарадзіўся ў 1542 годзе ў мясцовасці Фонціверос (Іспанія) побач з г. Авіла ў Старой Кастыліі. Быў 3-ім сынам Гансала дэ Епеса і Каталіны Альварэс.

Калі меў 2 гады, памёр яго бацька. Асірацелая сям'я жыла ў страшнай нястачы. Некалькі разоў перасялялася, шукаючы крыніц, каб пратрымацца. Нягледзячы на цяжкасці, маці гадавала дзяцей у хрысціянскім духу, выхоўвала ў іх вялікую пашану да Марыі Панны.

У маладым узросце будучы святы займаўся разнастайнымі рамёсламі: быў ткачом, краўцом. Працаваў медбратам у бальніцы. У 1559 годзе, калі сабраў неабходную суму грошай, распачаў навучанне ў школе ў Медзіна-дэль-Кампа, якой кіравалі езуіты.

Маючы 21 год, уступіў у ордэн кармэлітаў, які ў другой палове XVI стагоддзя перажываў духоўны крызіс – не хапала апостальскай стараннасці. Па той жа прычыне праз год пасля пасвячэнняў малады чалавек задумваўся над тым, каб пакінуць супольнасць і працягваць манаскае жыццё асобна, у кляштары картузаў. Аднак пасля сустрэчы з Тэрэзай Авільскай пастанавіў разам з манахіняй прыкласці ўсе намаганні, каб рэфармаваць абедзве кармэліцкія супольнасці, што заключалася ў вяртанні да першапачатковай руплівасці, малітвы і практыкі аскетызму.

Падобна як Рэфарматарка Кармэля, Ян ад Крыжа адчуў вялікае супраціўленне з боку сабратоў, якія абвінавачвалі яго ў разнастайных дзівацтвах і дзяленні супольнасці. З-за гэтага ў 1577 годзе быў зняволены ў падзямеллі турмы ў Таледа. Вялікім суцяшэннем для будучага святога была нястомная размова з Усемагутным, частае чытанне Святога Пісання, медытацыя над ім і доўгія адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Сваё жыццё манах поўнасцю даручаў Божаму Провіду.

У часы найбольшых выпрабаванняў паўсталі самыя глыбокія і прыгожыя працы іспанскага містыка. Адным з найбольш вядомых з'яўляецца трактат "Узыходжанне на гару Кармэль", дзе апісаны этапы, праз якія павінен прайсці чалавек веры, каб дасягнуць найбольш дасканалай еднасці з Богам. Дзякуючы містычным трактатам атрымаў тытул доктара Паўсюднага Касцёла.

Ян ад Крыжа памёр 14 снежня 1591 года ў кляштары у Убэдзе (Іспанія) ва ўзросце 49-ці гадоў. Цнатлівае, поўнае пакут і ахвяр жыццё стала падставай для таго, каб узнесці яго да хвалы алтара.

#### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЯНА АД КРЫЖА?

Святы часта паўтараў, што ўсіх людзей будуць судзіць з любові. Гэтымі словамі ён заахвочвае сучаснікаў сваімі ўчынкамі абвяшчаць міласэрную любоў Бога. Па яго словах, кожны ахрышчаны чалавек павінен быць "жывым Евангеллем".

#### ЦІКАВА!

Св. Ян Павел II шматразова называў св. Яна ад Крыжа сябрам і настаўнікам веры, і з пачатку свайго пантыфікату нястомна паўтараў, што менавіта ў школе гэтага святога ён адкрыў годнасць чалавека і стаў яе абаронцам.

#### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Супакой сваю душу, адкідваючы ўсе перажыванні і не турбуючыся ні пра што, і тады будзеш служыць Богу так, як Яму падабаецца, і знойдзеш у Ім сваю радасць" ("Словы святла і любові. Перасцярогі").

#### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Яна ад Крыжа 14 снежня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Човен са свечкамі і пернікавыя хаткі, або пра сімвалы і традыцыі Адвэнту

***Адвэнт існуе ў традыцыі Касцёла ўжо не адно стагоддзе. Элементы падрыхтоўкі да Божага Нараджэння старанна перадаюцца вернікамі з пакалення ў пакаленне. Нейкія з іх набылі нацыянальныя асаблівасці, нейкія застаюцца нязменнымі незалежна ад часу і месца.***

## Адвэнтавы вянок



Звычай вырабу вянкоў паходзіць з Германіі. У пачатку XIX стагоддзя святар па імені Іаган Генрых Віхерн, які ўзяў на выхаванне некалькі дзяцей з сем'яў беднякоў, вырашыў стварыць перадсвяточную атмасферу. Змайстраваў са старога драўлянага кола своеасаблівы вянок са свечкамі і падвесіў яго дома пад столлю. Пачынаючы з 1 снежня штодня падчас супольнай малітвы з дзецьмі запальваў па адной свечцы. Іх колькасць вяла лік дням, якія заставаліся да Каляд. Такім чынам, дзеці маглі сачыць за тым, як набліжаюцца да вялікай урачыстасці.

Сёння традыцыя вырабу вянкоў крыху відазмянілася. Ранейшыя 24 свечкі змяніліся 4-ма (па ліку нядзель, якія папярэднічаюць святам Божага Нараджэння). Вянок часцей за ўсё вырабляецца з яловых галінак. А ў Швецыі гэта, напрыклад, невялікі латок, нібы човен, з 4-ма размешчанымі на ім па чарзе свечкамі. Знізу іх упрыгожваюць і захутваюць мохам і яловымі або бруснічнымі галінкамі. Згодна звычаю, 1-ая свечка павінна згараць на чвэрць, 2-ая – на трэць, 3-яя – напалову. У апошнюю, 4-ую нядзелю перад святамі ўсе свечкі гараць наўскос: першая ўжо амаль дагарае, а апошняя толькі пачынае.

Адвэнтавы вянок – гэта сімвал Божага люду, які ў радасці і любові чакае прыходу Збаўцы ў свет. Форма круга сімвалізуе вечнасць, якая не мае ні пачатку, ні канца, а яго зеляніна – бясконцы працяг жыцця, вечнае быццё Бога, міласць якога да чалавека бязмежная. Запальванне ў вянку свечак азначае чуванне, чаканне прыходу Хрыста. Агонь з'яўляецца сімвалам Езуса, Яго перамогі над цемрай.

Кожная са свечак мае асаблівае значэнне: 1-ая сімвалізуе прабачэнне Богам непаслухмянасці Адама і Евы, 2-ая з'яўляецца знакам веры патрыярхаў ізраільскага народа, знакам іх удзячнасці Богу за абяцаную ў дар зямлю, 3-яя паказвае радасць караля Давіда, што "цэлебруе" саюз з Усемагутным, 4-ая абвяшчае прыход Месіі.

Часта ў цэнтры адвэнтавага вянка прысутнічае і 5-ая, раратняя свечка, што сімвалізуе Найсвяцейшую Панну Марыю. Яна, як ранішняя зорка, абвясціла ўзыход новага Сонца Праўды і Святла свету – Езуса Хрыста. Раратка звычайна белага альбо светла-жоўтага колеру. Перавязана белай ці блакітнай стужкай і ўпрыгожана зелянінай ці ліліямі. Колер стужкі нагадвае праўду аб чысціні і Беззаганным Зачацці Марыі, а зеляніна – гэта знак, што Яна прынесла свету Надзею ўсіх часоў і пакаленняў. Ліліі і блакітная стужка звычайна сімвалізуюць саму Багародзіцу.

У немцаў 5-ая свечка запальваецца апоўначы ў Вігілію Божага Нараджэння, сімвалізуючы прыход Дзіцятка Езус.

## Раратняя св. Імша



Адной з прыгажэйшых традыцый Адвэнту ва ўсім свеце з'яўляецца раратняя св. Імша ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі. Яна ўвасабляе падзяку Багародзіцы за некалі сказанае "так", што згадзілася стаць Маці Збаўцы. Літургія, якая часцей за ўсё цэлебруецца перад усходам сонца, перажываецца вернікамі ў асаблівай прысутнасці Марыі, бо менавіта Яна чакала Збаўцу так, як ніхто іншы. Назва гэтай св. Імшы паходзіць ад першых слоў лацінскага гімна "Rorate coeli desuper" ("Спусціце, нябёсы, нам расу").

Для дзяцей раратняя літургія з'яўляецца чымсьці выключным. На пачатку св. Імшы яны стаяць у цёмнай святыні, трымаючы ў руках запаленыя свечкі, лампадкі, ліхтарыкі. Гэта своеасаблівы напамін пра неабходнасць здзяйснення добрых учынкаў, якія дапамагаюць асвяціць змрок у душы і падказаць сэрцу светлую дарогу да Хрыста.

Першапачаткава раратняя св. Імша цэлебравалася за 9 дзён да свят Божага Нараджэння. Пазней, згодна з асаблівым прывілеем Святога Пасада, традыцыя пашырылася на ўвесь перыяд Адвэнту.

## Адвэнтавая лесвіца і каляндар



Яшчэ адзін атрыбут Адвэнту ў касцёле – гэта лесвіца. Яна адлюстроўвае сімвалічны зыход Бога з неба на зямлю. На самым версе знаходзіцца Бэтлеемская зорка, унізе – яслі з сенам, а на самых сходах – фігурка Дзіцятка Езус, якая па працягу Адвэнту "зыходзіць" усё ніжэй і ніжэй, каб у дзень Божага Нараджэння з'явіцца ў яслях. Гэтая лесвіца як бы адлюстроўвае дні перыяду чакання, дапамагае верніку адчуць у сэрцы прыбліжэнне радаснага свята.

Вельмі цікавай у свецкім асяроддзі традыцыяй, якая дапамагае дзецям ператварыць перадкалядны час у хвалюючае, радаснае чаканне, з'яўляецца адвэнтавы каляндар. Звычай палягае на лічэнні снежаньскіх дзён, якія застаюцца да Божага Нараджэння. Бацькі, у сваю чаргу, змяшчаюць на календары заданне, што пэўным чынам дапамагае з карысцю падрыхтавацца да надыходзячага свята, і прэзент за яго выкананне. Як правіла, гэта салодкія пачастункі. Такім чынам, дзіця пакрокава ў Божым духу набліжаецца да вялікай урачыстасці. Гэта традыцыя найбольш распаўсюджана ў Заходняй Еўропе, дзе вернікі практыкуюцца ў разнастайных формах, матэрыялах і закладанні адметнага сэнсу пры вырабе адвэнтавага календара.

## Падарункі і пачастункі



Распаўсюджанай у Еўропе традыцыяй з'яўляюцца калядныя кірмашы, якія распачынаюць сваю працу за нядзелю да Адвэнту і трываюць да самых свят. Людзі выбіраюць падарункі для сваіх родных, блізкіх, знаёмых. Гэта даніна памяці першым дарам, паднесеным Немаўляці Езусу. Сродкі ад продажу на калядных кірмашах часта накіроўваюцца на дабрачынныя мэты.

У Іспаніі лічыцца абавязковым зрабіць камусьці падарунак "для душы", г. зн. адгадаць жаданне бліжняга. Такім чынам, у краіне падчас Адвэнту пануе дух дарэння. І не толькі простыя грамадзяне хочуць парадаваць адзін аднаго – не адстаюць і цэлыя інстытуты, кампаніі і нават дзяржава.

У дзяцей падарункі асацыруюцца з добрым дзядулем у чырвоным касцюме і з сівой барадой, а менавіта са св. Мікалаем. Яго літургічны ўспамін прыпадае на пачатак Адвэнту (6 снежня). Дзеці спадзяюцца, што вялікі святы ўзнагародзіць іх за добрыя паводзіны ў бягучым годзе.

Падчас Адвэнту ў Еўропе прынята хадзіць у госці. У Латвіі, напрыклад, папулярныя т. зв. "вячоркі" – сустрэчы ў доўгія адвэнтавыя вечары. Жыхары вёскі ці мястэчка збіраюцца ў адным з дамоў, моляцца, спяваюць рэлігійныя песні, чытаюць духоўную літаратуру, адначасова робячы і іншую працу.

У госці пажадана хадзіць з уласнавырабленымі пачастункамі. У Германіі прынята пячы штолен – кекс, які па форме нагадвае батон. У яго для начыння кладуць разынкі і цукаты, мак, арэхі або марцыпаны. Немцы выпякаюць яшчэ адзін традыцыйны пачастунак, які называецца баумкухен, або "дрэва-пірог". Яго зрэз нагадвае спілаванае дрэва з гадавымі кольцамі, з-за чаго кекс і атрымаў сваю назву. Таксама ў Германіі, аднолькава як і ў Аўстрыі, пякуць пячэнне пляцшэн. Яно можа быць рознай формы, з рознага цеста. Найчасцей гэта арэхавыя шарыкі, карычневыя зоркі, "шахматнае" пячэнне з сумесі шакаладнага і белага цеста. У Швецыі выпякаюць пернікавыя хаткі.

**Хутка людзі ўпрыгожаць дамы святочна ўбранай елкай, каляровай ілюмінацыяй. Але за гэтым варта не забыцца ўпрыгожыць найважнейшае – сваё сэрца. Бо менавіта там нараджаецца жывы і сапраўдны Хрыстос.**

*Марыя Валюк*

## Слова для жыцця

***Папа Францішак***



*Будаванне культуры сустрэчы і супрацоўніцтва патрабуе чагосьці большага, чым толькі талерантнасці. Патрабуе ад нас працягнутай рукі, даверу і зразумення. [...] Гэта дазваляе распачаць дыялог жыцця, а не толькі абменьвацца думкамі. Вымагае добрай волі і гасціннасці. Але не належыць блытаць таго з абыякавасцю ці стрыманасцю ў выражэнні сваіх глыбокіх перакананняў. Плённа ўзаемадзейнічаць з іншымі – значыць дзяліцца рознымі рэлігійнымі і культурнымі ідэнтычнасцямі заўсёды пакорна, сумленна і з павагай.*

*Адкрытасць сэрца з'яўляецца той пілігрымкай, якая вядзе да пошуку дабра, справядлівасці і салідарнасці. Падштурхоўвае клапаціцца аб карысці для нашых бліжніх. У Пасланні да Рымлянаў св. Павел нагадвае: "Не дай злу сябе перамагчы, але перамагай зло дабром" (Рым 12, 21). Гэта пастава, якую мы ўсе можам пераймаць. Рэлігійны клопат пра дабро нашых бліжніх, што выплывае з адкрытага сэрца, цячэ, як вялікая рака, залiваючы бясплодныя, пустынныя землі нянавісці, карупцыі, убоства і насілля, якія так моцна знішчаюць людское жыццё, раздзяляюць сем'і і нявечаць дар стварэння.*

*Фрагмент прамовы падчас Міжрэлігійнай экуменічнай сустрэчы ў Бангладэш, 01.12.2017*

***Кс. бп Аляксандр Кашкевіч***



*Адвэнт – гэта час, калі мы павінны задаць сабе шэраг вельмі важных пытанняў: ці з'яўляецца маё жыццё чуваннем? ці гатовы я да сустрэчы з Панам Езусам як Суддзёй? ці ў стане я буду здаць Яму справаздачу з таго, як выкарыстоўваў час, якім Пан Бог мяне адарыў, і незлічоныя нагоды да чынення дабра?*

*Многія людзі падвяргаюцца вельмі небяспечнай ілюзіі, што "ў мяне яшчэ будзе час": на малітву, нядзельную Эўхарыстыю, навяртанне і прыступанне да споведзі, паглыбленне веры, паяднанне з бліжнім, чыненне дабра, клопат аб сваім духоўным жыцці... Тыя, хто трывае ў падобным фальшывым перакананні, здаецца, забываюць, што Адвэнт іх жыцця можа скончыцца ў любы дзень і што тое "заўтра", з якім яны звязваюць свае планы і надзеі, можа для іх папросту не надысці.*

*Літургічны перыяд Адвэнту дае нам нагоду да духоўнага абуджэння, вызвалення ад небяспечных ілюзій, да ўзмоцненай чуйнасці і адказнасці за сябе. Не будзем адкладаць на пазнейшы час найважнейшыя справы! Няхай гэты радасны час чакання, які мы маем перад сабой, будзе не толькі духоўнай падрыхтоўкай да свят Божага Нараджэння, але таксама нагодай да яшчэ больш глыбокага перажывання веры і больш свядомай рэалізацыі хрысціянскага паклікання.*

*Фрагмент пастырскага ліста на Адвэнт 2017 года*




◆ *Папа Францішак атрымаў у падарунак ад вытворцы шыкоўны аўтамабіль Lamborghini Huracan, які каштуе больш за 280 тыс. даляраў. Святы Айцец перадаў яго на аўкцыён. Частку сумы, выручанай ад продажу, атрымае фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" на аднаўленне знішчаных хрысціянскіх вёсак на Раўніне Ніневіі ў Іраку. Астатнія грошы будуць прызначаны на праект дапамогі жанчынам – ахвярам гандлю людзьмі і прастытуцыі, а таксама на карысць урачоў, якія лечаць жанчын і дзяцей у Афрыцы.*

◆ *Дзякуючы прэзідэнту Дональду Трампу і першай лэдзі ў Белым Доме ўжо запанаваў святочны настрой. Гэта не толькі аздобленыя елкі і дэкарацыі, але і калядная стаенка з Дзіцяткам Езус. Гэта сапраўды добрыя змены, паколькі папярэднік прэзідэнта быў прыхільнікам адкрыцця на мультыкультуралізм, а яго віншавальныя паштоўкі гаварылі ў цэлым пра "святочны час". Прэзідэнт Трамп абяцаў, што перапыніць гэтую свецкую традыцыю, а Божаму Нараджэнню верне рэлігійнае вымярэнне.*

◆ *Дзяржаўныя ўлады Кітая выдалі загад аб забароне наведвання Ватыкана. За невыкананне прадпісання прадугледжаны штраф у памеры 300 тыс. юаней (каля 40 тыс. еўра). Афіцыйная падстава для забароны – адсутнасць дыпламатычных адносін паміж Кітаем і Апостальскім Пасадам. Неафіцыйнай нагодай стала некантралюемая евангелізацыя яго народа. Уладам не падабаецца, што кітайцы падчас турыстычных падарожжаў цікавяцца Касцёлам не толькі з мастацкага ці гістарычнага пункту гледжання, але і каталіцызмам як хрысціянскай рэлігіяй.*

◆ *А. Фрэнсіс Соланус Кейсі з Ордэна Братоў Меншых Капуцынаў абвешчаны блаславёным, 2-ім па ліку народжаным у ЗША. Беатыфікацыя адбылася пасля пацвярджэння цуду ацалення жанчыны ад невылечнай генетычнай хваробы скуры праз яго малітоўнае заступніцтва. Як зазначыў прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі кард. Анджэла Амата, капуцын "спасціг вяршыні святасці не мучаніцкай смерцю, але дасканалай любоўю да Бога, самаахвярна служачы бедным, маргіналізаваным і бяздомным. Ён пастаянна быў сярод патрабуючых, цярпліва выслухоўваючы кожнага і спрабуючы ўсім дапамагчы".*

◆ *Спартсмен Абдул Азіз Тэттэ, які іграе ў познанскім футбольным клубе, пасля кожнага матча збірае выкарыстаны рыштунак калег (непатрэбныя буцы і футболкі, мячы), каб раздаць яго дзецям у Гане. "Яны не змогуць купіць сабе тыя рэчы, – тлумачыць Тэттэ. – Каб гэта зразумець, трэба нарадзіцца ў Афрыцы". Футбаліст штогод прылятае на Радзіму. Едзе фургонам у краму, загружае яго прадуктамі і прадметамі першай неабходнасці. "Бог мяне блаславіў і паслаў такі лёс, што цяпер магу несці дапамогу іншым", – гаворыць мужчына.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Арыгінальныя і традыцыйныя дэкарацыі на Божае Нараджэнне

*працяг са с. 1*

## ЭКАЛАГІЧНЫЯ ЎПРЫГОЖАННІ

У Гродне ўжо адчуваецца перадсвяточная атмасфера. Крамы ды вуліцы ўсё больш і больш пачынаюць зіхацець калядным убраннем, людзі прыглядаюцца да падарункаў. ***"У нас таксама пануе калядны дух,*** – распавядае Дар'я Фядотава-Вановіч, саўладальніца крамы "Лёля". – ***Выстаўлены на продаж рэчы, выкананыя ў традыцыйнай і сучаснай тэхніках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Кожная з іх адметная сваёй ідэяй і стылем. Ёсць анёлкі, званочкі, гірлянды з каладнымі зоркамі, зробленыя з саломы. Іх можна павесіць на елку. Таксама можам прапанаваць святочныя свечкі. Яны прыемна пахнуць, могуць стаць прадметам дэкору. Яшчэ ў нас ёсць вельмі цікавыя саламяныя елкі. Іх верхавіны ўпрыгожаны каляднай зоркай".*** У размове спадарыня Дар'я выказвае меркаванне, што менавіта такая зорка, а не пяціканцовая, бліжэйшая хрысціянам па душы. Гэты цёплы сімвал нагадвае пра продкаў, пра вёскі, з якімі ў многіх звязаны дзіцячыя ўспаміны святкавання Раства і каледавання.

***"У наш век цяжка быць «жывым», таму што вакол нас усё больш і больш штучных вырабаў. А што сузіраем, тое і трансліруецца, пранікае ў душу,*** – адзначае спадарыня Дар'я. – ***Адзін з лёгкіх спосабаў, каб пачуцца спакойна і свабодна, – акружыць сябе рэчамі, якія вяртаюць да каранёў, да чагосьці простага і сапраўднага. Экалагічныя калядныя ўпрыгожанні, зробленыя з густам, ствараюць у доме святочны і па-сапраўднаму сардэчны клімат".***

## У АДЗІНКАВЫМ ЭКЗЕМПЛЯРЫ

Зараз на паліцах крам можна знайсці прадукцыю на любы густ. Вялікі працэнт святочных аздоб, якія прапануюцца пакупнікам, складаюць масавыя вырабы, якія прыйшлі да нас з Кітая. Безумоўна, яны прыцягваюць увагу сваімі яркімі колерамі, бліскучасцю, але такія ўпрыгожанні пазбаўлены аўтэнтычнасці, унікальнасці і традыцыйнасці. У сваю чаргу рэчы, зробленыя сваімі рукамі, прыносяць утульнасць і прастату, якой нам так часта не хапае. Менавіта таму людзі часцей пачынаюць цікавіцца і набываць вырабы, якія нельга купіць у звычайнай краме.

***"Мы спецыялізуемся на таварах, што выкананы мясцовымі майстрамі,*** – гаворыць Надзея Несцяровіч-Вішнеўская, саўладальніца этнакрамы "Цудоўня". – ***Гэта самабытныя рэчы, вельмі часта – у адзінкавым экземпляры. Прапануем нашым кліентам керамічныя званочкі – сімвал Добрай Весткі, саламяныя і звязаныя кручком зоркі, елачкі, анёлкаў, льняныя шары, якімі можна ўпрыгожыць святочнае дрэўца. Таксама маем драўляныя пячаткі, з дапамогай якіх можна аздобіць абрус для вігілійнай вячэры ці стварыць унікальныя паштоўкі. Ёсць свечкі – неад'емны элемент святога вечара. Упэўнена, што ўвагу пакупнікоў, якія хочуць прыўнесці хрысціянскі элемент у дэкараванне свайго жылля, прыцягнуць шкляныя калядныя вітражы. Вельмі ўрачыста будуць таксама глядзецца драўляныя анёлы аўтарства вядомага гродзенскага разьбяра Мікалая Скляра. У бліжэйшы час у продажы павінны з'явіцца калядныя вырабы аўтарства майстрыхі Мар'яны Кузьміцкай. У мінулым годзе яна здзівіла нашых пакупнікоў шопкай, зробленай з жытняй саломы. Сёлета ад яе чакаем новыя каларытныя вырабы з хрысціянскай сімволікай".***

## СВАІМІ РУКАМІ

Вядома, усе мы рыхтуемся да свята Раства найперш духоўна, але і пра творчы падыход не варта забывацца. Калі вырабляем святочныя атрыбуты ўласнаручна, паляпшаецца настрой.

***"Наша артпляцоўка прапануе гасцям не толькі набыць калядныя ўпрыгожанні, але заахвочвае дзяцей, моладзь і дарослых зрабіць аздобы сваімі рукамі,*** – распавядае Анжэліка Купрыянік, дырэктар галерэі "У майстра". – ***З гэтай мэтай ужо 2-гі год запар мы ладзім адмысловыя майстар-класы. Падчас іх ствараюцца ўнікальныя рэчы, якімі можна аздобіць хатні інтэр'ер. Сёлета мы ўжо зрабілі калядныя званочкі, елачныя цацкі, на якіх змясцілі біблейскія сюжэты на тэму Раства, таксама навучыліся майстраваць з драўляных загатовак цудоўных анёлаў. У бліжэйшы час плануем правесці майстар-клас па пляценні і дэкарацыі каляднага вянка. Створаныя аздобы таксама могуць быць добрымі падарункамі для блізкіх і сяброў. Яны зроблены з душой, таму, паверце, не пакінуць нікога раўнадушнымі".***

Адметна, што падчас творчых сустрэч у галерэі не толькі займаюцца прыгожай аўтарскай працай, але таксама дыскутуюць на рэлігійныя тэмы. На гэтыя спатканні запрашаюцца ўсе ахвотныя.



*Удзельнікі майстар-класа, арганізаванага галерэяй "У майстра", дэманструюць зробленыя сваімі рукамі святочныя аздобы*

**Напярэдадні зімовых свят на Гродзеншчыне праўдуць каля тысячы выстаў-продажаў і кірмашоў. Традыцыйна тут будзе прадстаўлены шырокі асартымент калядных вырабаў. Прыходзьце па натхненне, настрой і, вядома ж, арыгінальныя і густоўныя аздобы!**

## ЕЛКА, ПОЎНАЯ СІМВАЛАЎ

*Нягледзячы на тое, што святы Божага Нараджэння сягаюць сваёй традыцыяй у першыя стагоддзі нашай эры, аздабленне елкі – адносна малады звычай. Калядным дрэвам хвойныя былі выбраны ў XVI стагоддзі. У біяграфіі св. Баніфацыя чытаем, што падчас св. Імшы на Божае Нараджэнне ён зрубіў святы для язычнікаў дуб і знішчыў усе дрэвы навокал, пакінуўшы толькі адну невялікую сасонку, якая і стала пазней прататыпам сённяшняй елкі.*

*Традыцыя ставіць на свята хвойнае дрэва хутка распаўсюдзілася ў пратэстанцкіх краінах у Еўропе. Каталіцкаму Касцёлу першапачаткова гэты звычай не падабаўся, але з часам ён быў прыняты і атрымаў новае значэнне. Елка стала адпаведнікам біблійнага "дрэва пазнання дабра і зла", таму на ёй змяшчалі невялікія чырвоныя "райскія яблыкі", што прыгадваюць пра першародны грэх. Святочнае дрэва дазвалялася аздабляць толькі ў Вігілію, г. зн. у дзень, калі Касцёл узгадвае Адама і Еву, што з'яўляецца спасылкай на грэх і падзенне чалавека.*

*Варта падкрэсліць, што елачныя аздобы маюць сваю сімволіку. На вярхушцы знаходзіцца бэтлеемская зорка – на ўспамін той, якая правяла 3-ох каралёў да ясляў. Цяпер яна абазначае своеасаблівы маяк, які мае дапамагчы членам сям'і вярнуцца дадому здалёку, каб разам сабрацца за вігілійным сталом. Званочкі з'яўляюцца сімвалам Добрай Навіны і радасці, а агеньчыкі і лямпачкі – знакам біблійнага "Святла свету", Хрыста. Яблыкі, што некалі былі абавязковай аздобай на елцы, – гэта напамін аб плодзе з райскага дрэва. Сёння іх замянілі чырвоныя шарыкі.*

## ПРОСТАЯ, АЛЕ ШЫКОЎНАЯ АЗДОБА

*Калядныя святы ў многіх з нас асацыіруюцца з выцінанкай, калі вялікія і маленькія вокны гарадскіх кватэр і вясковых дамоў упрыгожваюцца ажурнымі папяровымі ўзорамі. Сустракаюцца выявы святочных елак, звяроў і птушак, снегавікоў, зімовыя пейзажы. Ідучы па вуліцы і зазіраючы ў вокны можна таксама ўбачыць хрысціянскія матывы: бэтлеемскія зоркі, званочкі, шопкі, анёлкаў і св. Мікалая з мяшком падарункаў. Калі ёсць жаданне прыгожа, арыгінальна і па-хрысціянску аздобіць свае вокны, не абавязкова быць вопытным майстрам-выразальшчыкам. Уласнаручна выканаць калядную выцінанку можна з дапамогай трафарэтаў, якіх шмат у Інтэрнэце.*

*Кінга Красіцкая*

# Моладзь – надзея Касцёла і грамадства

**Сёння рэдакцыя "Слова Жыцця" прапануе маладым людзям з Гродзенскай дыяцэзіі адказаць на некаторыя пытанні анкеты, створанай у рамках падрыхтоўкі да Сінода Біскупаў на тэму "Моладзь, вера і распазнанне паклікання".**

● працяг са с. 1



***Падумай пра сябе, калі быў(-ла) дзіцём і цяпер. Наколькі станоўча на Твой асабісты рост паўплывалі наступныя фактары: школа, сям'я, сябры, СМІ (у тым ліку тэлебачанне, інтэрнэт), супольнасці і згуртаванні маладых людзей (спорт, школа, Касцёл), рэлігійная адукацыя, хобі і вольны час, чытанне, музыка?***

Вікторыя Петрусевіч
*27 гадоў, былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры*

*Свядомае жыццё чалавека пачынаецца, вядома, у школе. Гэта адкрыццё свету ведаў, сур'ёзных зносін з сабе падобнымі. Менавіта ў юнацкія гады я вучылася разбірацца ў людзях, у іх шчырасці і намерах. Яшчэ ў школе з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры распазнавала сваё жыццёвае пакліканне. Гэта яна натхніла несці святло роднай мовы. Увогуле, школа больш-менш дапамагла мне развіцца як асобе, маім талентам.*

*Ва ўніверсітэцкія часы здабыла сапраўдных сяброў. Не ўяўляю нават, як можна без іх! Сябры – гэта падтрымка. Людзі, якіх не пужаюць выпрабаванні часам: яны застаюцца побач, калі табе і добра, і дрэнна; падказваюць, калі памыляешся; могуць пакрычаць, але, разам з тым, і пашкадаваць. І гэта павінна быць узаемна. Імкнуся быць добрым сябрам для іншых таксама.*

*Калі разважаць пра веру, то ў мяне быў свой "Ян Хрысціцель". Ён дапамог паглыбіць веды пра Касцёл, бо, шчыра прызнаюся, на той момант "плавала" на паверхні. Штодня з удзячнасцю ўспамінаю пра гэтага чалавека ў малітве. Праз яго пазней набыла новых, цудоўных знаёмых, з якімі працягвала развіваць сваю веру. Нейкімі новымі цікавосткамі з хрысціянскага жыцця дзялілася з дзецьмі на ўроках, таму што лічыла сваёй задачай выхаваць грамадзяніна-хрысціяніна... Такі вось ланцужок атрымліваецца, дзе адно чапляецца за другое. З гэтага і сплятаецца своеасаблівы ружанец жыцця.*

*Не так даўно я перажыла вялікую радасць – мы з мужам ажаніліся. Гэта было наша асэнсаванае рашэнне. Абодва разумеем: у сужэнстве вельмі важна захоўваць узаемапавагу, быць прыкладам для дзяцей. Усведамляем, што сям'я павінна быць падмуркам, таму яе неабходна будаваць на хрысціянскіх ідэалах: сумесна наведваць касцёл, святкаваць (не фармальна) урачыстасці, выхоўваць дзяцей з першых дзён жыцця ў веры. Будзем прыкладваць на гэтай "будоўлі" ўсе свае намаганні! Спадзяюся, з Божай дапамогай у нас атрымаецца быць шчаслівымі сужэнцамі і бацькамі.*



***Разважаючы пра слова "пакліканне", што прыходзіць на розум (самарэалізацыя, план жыцця, Божы заклік, служэнне, вера, сужэнства, сям'я, святарства, кансэкраванае жыццё, свабода, сумненне, страх, запрашэнне, падарунак, цiск, сутыкненне)?***

Аляксандр Сергяюк
*16 гадоў, школьнік*

*Кожны чалавек да нечага пакліканы. І ён яшчэ нават не нарадзіўся, а ў Бога ўжо ёсць план для яго. Неабходна адразу з пакорай прыняць праўду: кім мы будзем, вырашае Стварыцель. Але наша задача – распазнаць гэты план, каб найлепшым чынам яго рэалізаваць. Таму вельмі шмат чаго ў жыцці залежыць ад нас саміх.*

*Вядома, памыліцца ў выбары шляху можа кожны. Але калі ігнаруем тое, што нам наканавана, сэрца заўсёды будзе адчуваць неспакой, прагу. Каб дакладна вызначыць сваю жыццёвую місію, трэба маліцца і чакаць адказу ад Бога. Думаю, самае галоўнае ў распазнанні паклікання – не баяцца сказаць Усявышняму: "Так, я гатовы пайсці за Табой!".*

*Зараз я таксама знаходжуся ў роздумах. Чаго ж ад мяне хоча Бог? Ці павінен я стаць добрым святаром, ці добрым бацькам? У такія хвіліны разважанняў на розум прыходзіць любімая цытата з Бібліі: "Плыві на глыбіню" (параўн.: Лк 5, 4). Глыбіню разумею як пакліканне. Прытрымліваюся меркавання, што варта не баяцца ісці за Хрыстом. Ён заўсёды побач. Усведамляю, што ў любым выпадку рэалізацыя паклікання палягае на служэнні: ці як муж – жонцы і дзецям, ці як святар – усім людзям.*

*Мне здаецца, паняцце "пакліканне" бліжэй да Божага закліку і плану жыцця.*



***Ці згодны(-на) Ты з наступным выказваннем: большасць людзей заслугоўвае майго даверу? Вызначы сваё меркаванне па шкале ад 1-га да 5-ці.***

Вольга Снітко
*18 гадоў, студэнтка*

*Напэўна, гэтае выказванне ў адносінах да сябе магу ацаніць на 4. Я давяраю людзям, магчыма, таму што ніхто да гэтага часу мяне не падводзіў.*

*Давер – гэта ўпэўненасць у іншым чалавеку, вера ў яго шчырасць. Прытрымліваюся, можа, наіўнай тэорыі, але калі ты шчыры з чалавекам, то і ён – з табой. Давяраю бацькам, бо бліжэй за іх нікога не маю. Гэтыя людзі мяне выгадавалі, выхавалі. Вядома, яны жадаюць свайму дзіцяці толькі дабра. Давяраю сябрам, якія заўсёды побач, гатовы падтрымаць, з кім не баюся раздзяліць нейкую таямніцу або да каго магу звярнуцца з просьбай. Зразумела, кожны з нас давярае ўрачам, настаўнікам. Іначай як атрымаць ад іх дапамогу? Аказваючы людзям давер, пускаем іх глыбока ў свой свет, а яны, у сваю чаргу, становяцца для нас апорай.*

*Часта ў сучасным свеце здараецца так, што некаторыя выкарыстоўваюць давер іншага чалавека дзеля ўласнай карысці. Нягледзячы на гэты непрыемны факт, не перастаю давяраць тым, хто мяне акружае, натуральна, цалкам кантралюючы сітуацыю. Мне здаецца, давер – адна з найважнейшых частак чалавечых адносін, мазаіка, з якой складаецца наша жыццё.*

*Упэўнена, нават калі выкрыты падман ці крывадушнасць, варта даць чалавеку другі шанс. Бо сам Езус Хрыстус заўжды нам даруе! Даруе падчас кожнай споведзі праз святара тыя цвікі, тыя грахі, якімі мы прыбіваем Яго да Крыжа. "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34). Быць можа, менавіта наш давер, нягледзячы на здраду з другога боку, абудзіць у тым чалавеку нешта светлае, прымусіць задумацца над жыццём і змяніць да яго сваё стаўленне.*

***Якія пытанні Ты лічыш асабліва актуальнымі для Касцёла сёння (сацыяльныя праблемы, жыццё ў малітве, ахова праўд веры, супакой у свеце, акружаючае асяроддзе, дыялог з іншымі рэлігіямі, прапаганда і абарона жыцця ад зачацця да натуральнай смерці, сур'ёзная маральная ўзгодненасць паводзін і заяўленых каштоўнасцей, вывучэнне спосабу зносін з сённяшнім светам)? Выберы 3 варыянты ў парадку важнасці.***

Ірына Радзевіч
*25 гадоў, журналіст*

*Я бы расставіла найважнейшыя пытанні наступным чынам: 1 – жыццё ў малітве, 2 – адносіны з сённяшнім светам, 3 – супакой у свеце.*

*Малітва для хрысціяніна – гэта аснова жыцця. І зараз, і 100 гадоў таму, і 500. Кожны вернік пакліканы мець пастаянныя, жывыя адносіны з Богам. Найбліжэйшы шлях да ўсталявання цеснага кантакту са Стварыцелем – гэта малітва. Касцёл увесь час пра тое нагадвае, сведчыць, заклікае. Гэта лічу найбольш актуальнай тэмай.*

*У той жа час мы жывём у свеце, які заўсёды развіваецца, рухаецца наперад. Разам з ім, мяркую, павінен развівацца і Касцёл. Сачыць за тэндэнцыямі, настроямі ў грамадстве. Трэба адзначыць, што зараз Касцёл даволі актыўны ў такіх сферах, як, напрыклад, навука, палітыка, СМІ. Аднак варта няспынна і далей прыкладваць намаганні, каб быць не далёкім ад сучаснасці, а зразумелым свету.*

*За мір і супакой у свеце Касцёл выступаў заўсёды. Вернікі штодня моляцца аб мірным вырашэнні розных спрэчных пытанняў, канфліктаў. "Госпад усёмагутны, дапамажы спыніць усе войны, суняць варожасць, як старыя, так і сучасныя канфлікты", – такімі словамі часта моліцца папа Францішак. Бясспрэчна, пытанне аб супакоі ў сённяшнім нестабільным свеце з'яўляецца вельмі важным і адным з найбольш актуальных.*



***Ці можаш коратка расказаць эпізод, у якім быў(-ла) прама ці ўскосна ўцягнуты(-та) і які лічыш станоўчым прыкладам таго, як Касцёл можа суправаджаць маладых людзей у іх выбары, што надае каштоўнасць і задавальненне ў жыцці?***

Павел Кійко
*29 гадоў, будаўнік*

*Раней я жыў як хрысціянін, вера якога абмяжоўвалася наведваннем касцёла па нядзелях. А аднойчы мой сябар прапанаваў прыйсці на сустрэчу душпастырства моладзі "OPEN". Напрыканцы спаткання прагучала прапанова да жадаючых іграць у музычным гурце. Дагэтуль я чуў яго выступленне на св. Імшы. Прызнаюся, мяне гэта вельмі ўразіла.*

*Я, насамрэч, ужо даўно марыў навучыцца іграць на электрагітары. Таму вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў запрашэнне. Трошкі ўмеў перабіраць струны – моладзь у гурце мяне падтрымала. Затым разам ігралі на Дыяцэзіяльных днях моладзі, давалі канцэрты для пілігрымаў. Сёлета навват удзельнічалі ў музычным фестывалі "Дастукацца да нябёсаў". І вось думаю: я проста хацеў іграць на гітары... Ніколі сабе не мог уявіць, што буду служыць Богу праз музыку!*

*Без сумненняў магу адзначыць, што душпастырства "OPEN" бліжэй пазнаёміла мяне з Усемагутным. Тут я па-сапраўднаму даведаўся, што такое малітва, адарацыя. Тут сустрэўся з Жывым Стварцом, які стаў мне вельмі блізкім і вострa неабходным. Цяпер я моцна веру ў нашага Айца! Веру ў тое, што ў Бога ёсць асаблівы план для кожнага. Трэба проста даверыцца Яму, аддаць усе радасці, цяжкасці і трывогі. Штодня дзякую Усявышняму, што напаўняе мяне любоўю і дабрынёй для пераадолення новых жыццёвых выпрабаванняў. І цешуся магчымасці праслаўляць Яго сваімі здольнасцямі праз музыку.*

Запоўніць анкету на сайце youth.synod2018.va можна да 31 снежня бягучага года. На аснове адказаў апытаных паўстане „Instrumentum laboris" (працоўны дакумент нарады сінода).

***Ангеліна Пакачайла***




**У Польшчы забаранілі гандаль па нядзелях**

**Такім чынам палітычны ўлады ў суседняй краіне працягваюць укараняць у жыццё яе жыхароў хрысціянскія каштоўнасці.**

Закон уступіць у сілу з 1 сакавіка 2018 года. З гэтага дня забарона на гандаль па нядзелях будзе распаўсюджвацца на кожную 2-ую нядзелю месяца. З 2019 года крамы ў Польшчы адчыняць па нядзелях толькі раз на месяц, а з 2020 года гандаль у кожную нядзелю цалкам забароняць. Але ёсць выключэнне: гандляваць змогуць інтэрнэт-крамы і гандлёвыя аб'екты, якія знаходзяцца на аўтамабільных заправачных станцыях.




**"Ружанец на ўзбярэжжы" за жыццё і веру**

**Малітоўная акцыя пад такой назвай адбылася ў Ірландыі.**

Па прыкладзе польскага "Ружанца да межаў", які сабраў звыш мільёна вернікаў, ірландскія католікі маліліся ў інтэнцыі жыцця ненароджаных дзяцей, а таксама духоўнага і маральнага аднаўлення народа. У суме малітва адбывалася ў 280-ці месцах краіны.

Падзея была запланавана на апошнюю нядзелю лістапада невыпадкова. Ірландыя стала першай у свеце краінай, якая аддалася пад апеку Хрыста Валадара.




**Вынаходлівыя шопкі ў Італіі**

**У Асізі ў стаенцы змясцілі 444 гільзы. У Балоніі туды паставілі мініяцюрны пантон.**

Гільзы ад баявых патронаў аказаліся ў шопцы, зладжанай на плошчы перад ніжнім касцёлам базілікі св. Францішка ў Асізі. Як патлумачыў кусташ мясцовага кляштара францысканцаў, іх лік роўны колькасці духоўных і свецкіх асоб, якія страцілі сваё жыццё "па рэлігійных прычынах" з пачатку 2000-х гг.

У шопцы ў Кастэнаса пад Балоніяй мэр горада Стэфана Сэрмэнджы, як галоўны будаўнік, паставіў змясціць разам з фігурамі Дзіцятка, Марыі і Юзафа, а таксама жывёл мініяцюру пантона – асноўнага сродка перамяшчэння эмігрантаў, якія прыбываюць у Італію марскім шляхам. Мэр патлумачыў, што зрабіў гэта, каб прыцягнуць увагу людзей да праблем міграцыі.

*Кінга Красіцкая*



### *Што значыць маліцца да Беззаганнага Сэрца Марыі?*

*Культ Сэрца Марыі існаваў у Касцёле ўжо у XII ст. Па-рознаму развіваўся і прымаў разнастайныя формы. У XIX ст. адно з брацтваў, прысвечаных Беззаганнаму Сэрцу Марыі, налічвала больш за 20 мільёнаў членаў! Адкуль такая папулярнасць?*

*Пра Сэрца Марыі можам прачытаць нават у Святым Пісанні. У евангеліста Лукі знойдзем 2 фрагменты: "А Марыя захоўвала ўсе гэтыя словы, разважаючы ў сэрцы сваім" (Лк 2, 19), "А Маці Яго захавала ўсе гэтыя словы ў сэрцы сваім" (Лк 2, 51).*

*Евангеліст Лука, як сцвярджае традыцыя, быў лекарам і разумеў, якім важным органам для чалавека з'яўляецца сэрца. Аднак ён выкарыстоўвае гэтае слова згодна з габрэйскай і, хіба што, з агульначалавечай традыцыяй як паняцце духоўнае. Сэрца – гэта месца, дзе чалавек збірае, назапашвае свой духоўны і жыццёвы досвед. Мы, безумоўна, маглі б спрачацца і гаварыць: не, гэта розум, памяць і г. д. Але нават у нашай мове не кажам "баліць розум за чалавека" альбо "памяць трывожыцца". Кажам – "сэрца крывёй абліваецца". І гэта не азначае даслоўна, што ў нас пачаліся нейкія фізіялагічныя працэсы, але тое, што як асоба перажываем за канкрэтную справу ці чалавека. У гэтым сэнсе сэрца – гэта мы, гэта я. Таксама і з Сэрцам Марыі. Яе Сэрца – Яна сама!*

*Калі параўнаем заклікі розных літаній, то заўважым вялікую розніцу. Напрыклад, Ларэтанская літанія – гэта гімн праслаўлення Маці Божай, зварот да Марыі Трыумфаторкі, да Нябеснай Валадаркі. А літанія да Беззаганнага Сэрца – малітва ў перажыванні да Марыі зямной, блізкай і зразумелай звычайнаму чалавеку.*

*Культ Сэрца Марыі – гэта спроба вернікаў наблізіць Яе да сябе. Сэрца – напамін пра чалавечнасць, пра тое, што Марыя з'яўляецца сапраўднай асобай, якая жыла, хвалявалася, цярпела.*

*А. Андрэй Сідаровіч MIC*
***Паводле catholicnews.by***

# Падрыхтоўка да свят Божага Нараджэння

Трывае Адвэнт – час чакання Нараджэння Хрыстова. Ён дазваляе хрысціянскім сем'ям перажыць некаторыя глыбокія значэнні: чаканне, дабрачыннасць, радасць, блізкасць. Калі сэнс гэтых паняццяў "увасабляецца" ў сям'і падчас адвэнтавай падрыхтоўкі, то і само свята перажываецца асаблівым чынам.

**У некаторых сем'ях існуе звычай пісаць адзін аднаму запіскі, у якіх як бацькі, так і дзеці выражаюць свае пачуцці: нечым дзеляцца, распавядаюць, жартуюць. У кароценькіх лістах таксама занатоўваюцца віншаванні з нагоды надыходзячых свят. Іх хаваюць пад талеркі падчас трапезы або ўвечары пад падушкі. Дарэчы, гэтым звычаем карыстаўся ў свой час і св. Ян Боска.**

Вельмі важна, каб у сем'ях бацькі рыхтаваліся да светлага свята Нараджэння Хрыста разам з дзецьмі. Дарослыя часта незаўважна для сябе "закопваюцца" ў перадсвяточных клопатах (трэба ўпрыгожыць дом, выбраць падарункі, прыгатаваць стравы), але забываюцца пра найважнейшае – духоўнае вымярэнне надыходзячай урачыстасці. Каб такога не адбылося, варта "раздзяляць" падрыхтоўку да вялікага свята разам з дзецьмі, якім неабходна ў чарговы раз прыгадаць гісторыю нараджэння Езуса Хрыста. Гэта, несумненна, будзе карысным таксама і для дарослага чалавека.

Трэба адзначыць, што дзеці інстынктыўна адчуваюць глыбокі сэнс свят, асабліва Раства. І калі маці і бацька ў асаблівым духу рыхтуюцца да святкавання таямніцы Божага Нараджэння, то і дзеці без цяжкасцей прымаюць, што Езус сапраўды "прыходзіць" у іх сем'і.

Галоўнае, каб сямейная падрыхтоўка была адаптаваная згодна з узростам, навыкамі і магчымасцямі дзіцяці. Як можна падкрэсліць значнасць надыходзячага Раства?

## Парады для бацькоў на Адвэнт:

- арганізуйце ў доме супольную малітву;
- змайструйце разам адвэнтавы вянок;
- зрабіце батлейку або іншы выраб на калядную тэму;
- малюйце і размалёўвайце альбомы з сюжэтамі Божага Нараджэння;
- упрыгожце разам святочную елку;
- раскажыце дзецям, што падарункі на Раства прыносяць Анёлы;
- прыміце сумесны ўдзел у дабрачынных акцыях і справах, якія арганізуюцца пры касцёлах, розных таварыствах, у школах і дзіцячых садках;
- вывучце разам на памяць верш са Святога Пісання;
- навучыцеся спяваць калядкі і пастаралкі;
- пачытайце дзецям Біблію пра цуд нараджэння Сына Божага, а таксама іншыя гісторыі з Яго жыцця;
- падумайце аб духоўных дарах, якія можаце ахвяраваць для Езуса Хрыста.



**Памятайце, такія моманты збліжаюць: святочныя рытуалы аб'ядноўваюць сям'ю. Паміж Вамі і дзецьмі ўзмацняецца эмацыянальная сувязь. Гэта спрыяе падтрыманню добрага клімату ва ўзаемаадносінах, што вострa неабходна для ўстанаўлення даверу і адкрытасці паміж усімі членамі сям'і.**

*Вольга Парада,*
*педагог-псіхолаг*




***На бачным месцы ў касцёле ў Зарачанцы ўсталявана шыльда з пазнакай "1937–2017". Гэта нагадвае парафіянам і гасцям святыні аб юбілеі 80-годдзя з часу адкрыцця святыні. І разам з тым з'яўляецца напамінам для мясцовых вернікаў пра цярністы шлях узнікнення парафіяльнага касцёла.***

*Гісторыя сягае пачаткамі ў 1927 год, калі Баля Касцёльная (сёння Зарачанка) стала цэнтрам парафіі. У мясцовасці, дзе існавала старажытная капліца, вырашылі пабудаваць касцёл. Першым пробашчам парафіі быў прызначаны кс. Мечыслаў Пячынскі. Пасля святары хутка змянялі адзін аднаго, з-за чаго пачатак будаўніцтва святыні цярпеў пэўныя цяжкасці.*

*Фундамент касцёла быў закладзены ў 1935 годзе. Будаўніцтва здзяйснялася сіламі саміх парафіян, без выкарыстання тэхнікі. Праз 2 гады кірпічная святыня была ўзведзена, патынкавана і пафарбавана ў белы колер. На ахвяраванні вернікаў на вокнах зрабілі вітражы, а таксама прыгожы драўляны алтар. Змясцілі абразы Маці Божай Вастрабрамскай і свсв. апосталаў Пятра і Паўла. Ля галоўных дзвярэй паставілі фігуру Марыі. У 1937 годзе касцёл быў кансэкраваны пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.*

*У 1969 годзе мясцовыя ўлады зачынілі святыню. Вернікі рэгулярна збіраліся ля яе сцен і маліліся. На нейкі час людзям дазволілі наведваць касцёл, але абавязалі падаткам. А ў 1970 годзе будынак святыні было вырашана аддаць калгасу пад зернясклад. Нягледзячы на тое, што вернікі пад пагрозай адмовіліся аддаваць ключы ад касцёла, прадстаўнікі мясцовай улады самавольна ўзламалі на дзвярах замок і загадалі выгрузіць туды тону люпіна. У знак пратэсту 35 работнікаў калгаса не выйшлі на працу. З-за такой рэакцыі касцёл неўзабаве ачысцілі.*

*Афіцыйна адкрыць святыню дазволілі толькі ў 1989 годзе – па шматлікіх просьбах вернікаў. Пачаўся рамонт. У верасні таго ж года адбылося паўторнае асвячэнне касцёла і ў адрамантаваным касцёле была адпраўлена першая св. Імша, якую цэлебраваў сённяшні арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. З таго часу ў парафіі пробашчамі служылі кс. Аляксандр Шэмет, кс. Леон Вітэк, кс. Віктар Мыслюк. Мясцовыя вернікі шчыра ўдзячныя святарам за духоўную апеку і за тое, што яны аддана прычыняліся да аднаўлення святыні. З памяццю ўспамінаюць пра былых пробашчаў у сваіх малітвах.*

***Сёння касцёл выглядае прыстойна, велічна. На радасць вернікаў над Зарачанкай і яе ваколіцамі плывуць чароўныя гукі звона, запрашаючы людзей на малітву. Хацелася б, каб над усёй нашай краінай на хвалу Пана ў святынях заўсёды гучалі званы, каб ніколі не вярнуліся часы Набатнага звону!***

*Марыя Храмлюк, в. Лойкі*

## НАВІНЫ



**Сход членаў сінадальных камісій і пасвячэнні дыяканату**

Першая сустрэча галоўнай камісіі і старшыняў сінадальных камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі прайшла ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Генеральны сакратар кс. канонік Антоній Грэмза пазнаёміў святароў з правіламі працы сінода і агучыў план яго правядзення.

У найбліжэйшым часе старшыні павінны абраць членаў у тэматычныя камісіі. Паінфармавана, што ва ўсіх дэканатах таксама будуць скліканы сінадальныя групы, у склад якіх увойдуць духоўныя і свецкія асобы на чале з дэканам. Удзельнікі запрашаюцца да абмеркавання асобных тэм і спраў, вызначаных сакратарыятам сінода.

Ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі Касцёл Гродзенскай дыяцэзіі ўзбагаціўся 3-ма новымі дыяканамі. Пасвячэнні дыяканату ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне з рук біскупа ардынарыя Аляксандра Кашкевіча атрымалі навучэнцы ВДС Андрэй Каўшук (родам з парафіі Найсвяцейшай Тройцы і св. Францішка Асізскага ў Свіслачы), Эрнэст Мікалайчык (парафія Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе) і Раман Вайцяховіч (парафія Божай Міласэрнасці ў Гродне).

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Па ўсёй дыяцэзіі перад Адвэнтам маладыя людзі святкавалі пры парафіях "Андрэйкі". Удзельнічалі ў разнастайных забавах, частаваліся за салодкім сталом. Напрыканцы супольна маліліся ў інтэнцыі плённага перажывання Адвэнту.

З канцэртам перад мясцовымі вернікамі выступіў дзіцячы парафіяльны хор "Misterium" з гродзенскага касцёла Маці Божай Анёльскай. Пазней па запрашэнні сацыяльна-дабрачыннай установы "Цэнтр Дапамогі Жыццю" хор з задавальненнем парадаваў сваёй творчасцю пацыентаў аддзялення Хоспіс Гарадской клінічнай бальніцы №2 г. Гродна.

Падсумаванне вынікаў творчага конкурсу пад назвай "Аб абароне Рыма-Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне падчас пераследу" адбылося ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Пераможцы ў намінацыях "малюнак", "фатаграфія", "графіка", "літаратурная праца" атрымалі ўзнагароды.

У Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі адкрылася выстава "Адкрыццё святой прыгажосці", прымеркаваная да 500-годдзя першай беларускай гравюры і першай друкаванай Біблii. Экспазіцыя ўключае калекцыю гравюрных дошак на медзі XIX ст. з выявамі сцэн Старога і Новага Запаветаў. У экспазіцыі прадстаўлены таксама сучасныя прылады для вырабу гравюр.

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



Манахіні Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта з тэрыторыі дыяцэзіі прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях заканчэння дыяцэзіяльнага этапа беатыфікацыйнага працэсу Слугі Божага кс. Аляксандра Зянкевіча, што адбываецца ў Вроцлаве (Польшча). Святар быў цесна звязаны з 11-цю блаславлёнымі сёстрамі мучаніцамі, расстралянымі падчас II Сусветнай вайны. У 1939–1946 гг. ён нёс служэнне ў Навагрудку, дзе быў пробашчам, дэканам і капеланам сясцёр назарэтанак. Таксама манахіні па традыцыі ў I Нядзелю Адвэнту падзякавалі Богу за гадавіну заснавання супольнасці. Яна паўстала ў Рыме (Італія) у 1875 годзе.

Манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Францішканак ад Церпячых адзначылі 25-годдзе служэння ў парафіі Спаслання Святога Духа ў Бярозаўцы (дэканат Навагрудак). Бесхабітовая супольнасць створана 135 гадоў таму бл. Ганаратам Казьмінскім. Паклікана несці міласэрную любоў Хрыста бедным, хворым, самотным, церпячым.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Напярэдадні Міжнароднага дня інвалідаў навучэнцы разам з валанцёрамі Гродзенскага "Карытас" наведалі Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці № 30 г. Гродна, у Сусветны дзень валанцёраў – гродзенскі Яслі сад №5 для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Алюмны прынеслі хлопчыкам і дзяўчынкам радасць надыходзячага свята і ўручылі ім салодкія пачастункі.

Працягвае дзяліцца сваёй творчасцю семінарыйны гурт "AVE", які ў апошні час выступаў з канцэртамі ў доме культуры ў Астраўцы і ў гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі падчас рэкалекцый цвярозасці.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Семінар для святароў Гродзенскай дыяцэзіі на тэму "Развіцце дабрачыннай дзейнасці пры каталіцкіх парафіях" адбыўся ў Доме міласэрнасці ў Сапоцкіне. Яго мэта палягала на заахвочванні пробашчаў да актывізацыі дабрачыннай дзейнасці на лакальным узроўні.

Перад святамі Божага Нараджэння дыяцэзіяльны "Карытас" па традыцыі праводзіць акцыю "Свечка дапамогі дзіцяці, якое знаходзіцца ў патрэбе", ці "Калядная свечка". Кожны вернік на працягу Адвэнту можа набыць яе ў сваёй парафіі і, тым самым, прычыніцца да дапамогі дзецям з малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў, сіротам, інвалідам.

Падобную акцыю праводзіць парафіяльны "Карытас" у Іўі. Валанцёры выраблююць святочныя ўпрыгожанні, праз набыццё якіх таксама можна зрабіць свой уклад у справу падтрымкі патрабуючых.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Над уваходам у катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя ў Гродне змясцілі барэльеф з лацінскім надпісам "Basilica minor" (малая базіліка). • Міністранцкую прысягу склалі 3 новыя члены ў касцёле свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі. • Літургічная служба алтара і моладзевы хор "Calasanz" з парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне традыцыйна аднавілі свае абяцанні. • Малітва ў абарону жыцця адбылася ў касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне. • За былога пробашча кс. каноніка Людвіка Станішэўскага памаліліся ў 1-ую гадавіну смерці ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Гнезне (дэканат Ваўкавыск). • З'езд Душпастырства чыгуначнікаў Гродзенскай дыяцэзіі прайшоў у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. • Сустрэча касцёльнага хору адбылася ў парафіі Божага Цела ў Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск). • Адвэнтавыя рэкалекцыі для моладзі з гродзенскага касцёла Маці Божай Анёльскай прайшлі ў парафіі ў Парэччы (дэканат Гродна-Усход), у парафіі св. Юды Тадэвуша ў Вішневе (дэканат Смаргонь).

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

*Ангеліна Пакачайла*

## АНОНСЫ

### ГРОДЗЕНСКІ "КАРЫТАС" АРГАНІЗОЎВАЕ СВЯТОЧНЫ КІРМАШ

**Традыцыйная акцыя адбудзецца 17 снежня ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.**

У гэты дзень пасля кожнай св. Імшы можна будзе набыць святочныя паштоўкі, дэкарацыі, фігуркі з гіпсу, свечкі на вігілійны стол, зробленыя ўласнаручна валанцёрамі рэлігійнай місіі "Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Гродзенскай дыяцэзіі.

*Выручаныя ад продажу сродкі будуць накіраваны на дапамогу патрабуючым.*

### УДЗЕЛЬНІКІ ПІЛІГРЫМКІ "ГРОДНА-РОСЬ" І ВАЛАНЦЁРЫ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ ДЗІЦЯЦІ ЗАПРАШАЮЦЦА НА АПЛАТКОВУЮ СУСТРЭЧУ!

**Спатканне адбудзецца 26 снежня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы).**

**Праграма:**

19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ўдзельнікаў пілігрымкі, валанцёраў і ахвярадаўцаў;

20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

*У праграме сустрэчы запланавана віншавальная частка з нагоды свят Божага Нараджэння і спеў калядак.*

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч.*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі **Коннага Мікалая,** які 06.11.1980 г. у праваслаўнай царкве ў Гальшанах заключыў сужэнскі саюз з **Сасноўскай Святланай,** просяць з'явіцца ў Касцёльны суд у Гродне (вул. К. Маркса, 4) ці патэлефанаваць па нумары (8 0152) 75-64-37.

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра месца побыту Коннага Мікалая, просяць перадаць гэтую інфармацыю ў Касцёльны суд.*




**У наступным нумары каляндар "Слова Жыцця" на 2018 год.**

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

13 снежня 1997 г. – кс. Юзаф Рагінскі, проб. Лaздуны;
14 снежня 2006 г. – кс. прэлат Мар'ян Шчэнсны, праф. Гродзенскай ВДС;
16 снежня 1975 г. – а. Аркадзь Вальтась OFMConv., проб. Гродна;
17 снежня 1996 г. – а. Станіслаў Гаўлік CMF, проб. Прывалка, Азёры;
20 снежня 1992 г. – кс. Вацлаў Стэфановіч SDB, проб. Крупава.

## Каляндар падзей

***10 снежня***
*Дыяцэзіяльны дзень малітвы за ўсіх дабрадзеяў Касцёла.*

***13 снежня***
*Успамін св. Луцыі, панны і мучаніцы.*

***14 снежня***
*Успамін св. Яна ад Крыжа, прэзбітэра і доктара Касцёла.*

***20, 22, 23 снежня***
*Квартальныя дні малітвы аб хрысціянскім жыцці сем'яў. Молімся за сем'і і тых, хто рыхтуецца заключыць сакрамант сужэнства.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".* ***Чарговы выпуск – 6 лютага.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Снежань***

*За адзінокіх, бяздомных, убогіх, каб ад бліжніх яны атрымалі неабходную дапамогу.*

*Аб дары плённага перажывання дыяцэзіяльнага сінода.*




## Чаму ў Адвэнце мы чакаем Божага Нараджэння з Марыяй?



Сёння гэтак жа, як і ў мінулыя часы, наша ўвага звернута да Марыі, Маці Адвэнту. Гэта Яна была абрана Богам, каб стаць дастойнай Маці Збаўцы свету з самага пачатку, яшчэ да таго, як “паўсталі горы, і вада мела свае межы”. Як гаворыць Святы Айцец Францішак, “Марыя была дзяўчынай з Назарэта – невялікай вёскі ў Галілеі, на ўскраіне Рымскай Імперыі, а таксама на перыферыі Ізраіля. Нягледзячы на гэта, Пан скіраваў на Яе свой погляд, каб стала Маці Яго Сына”. Таму Багародзіца была захавана ад першароднага граху. У напамін пра гэтую праўду 8 снежня ў Касцёле святкуецца ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Пасля Звеставання Маці Божая стала жывым табернаклем, у якім пачаў жыць Усемагутны. Яго любіла, праслаўляла і дзякавала, што злітаваўся над грэшным чалавецтвам і даў Збаўцу, якога нарадзіла для свету ў стайні Віфліема. У таямніцы Звеставання Божая любоў аб’ядналася з любоўю Марыі, а плодам гэтай любові быў Езус. Маці Божая, якая насіла Яго пад сваім сэрцам, жадае, каб кожны з нас таксама прыняў Хрыста.

У традыцыі вернікаў перыяд перад святамі Божага Нараджэння мае вельмі глыбокі марыйны характар. Штодня раніцай падчас Адвэнту цэлебруецца ратарняя св. Імша ў гонар Маці Божай. На алтары запальваецца дадатковая свечка, якая сімвалізуе Панну Марыю. На пачатку літургіі ў касцёле цёмна – гараць толькі свечкі і ліхтарыкі, прынесеныя дзецьмі і дарослымі. Святло ўключаецца пасля акту пакаяння, да спеву “Хвала на вышынях Богу”. З вялікай любові да Усемагутнага кожны з нас таксама можа стаць той светлай душой, якая здольна несці людзям Езуса. Але для гэтага павінны разам з Маці Божай песціць Хрыста ў сваіх сэрцах і з радасцю чакаць нараджэння Збаўцы, удзельнічаць у падрыхтоўцы Яго аб’яўлення ў свеце.

Марыя, пакорлівая “слуга Пана”, была і заўсёды застанецца жывым сімвалам вечных чаканняў свету на прышэсце абяцанага Месіі. Яна падтрымлівае нас у падарожжы да Божага Нараджэння, таму што вучыць, як плённа перажываць перыяд Адвэнту ў чаканні Збаўцы: не так важная знешняя пастава, як унутраная. Пра гэта і будзе наступнае апавяданне.

**Гісторыя здарылася ў адной маленькай іспанскай вёсцы на пачатку XX стагоддзя. У мясцовым касцёле ля алтара стаяла статуя Маці Божай. Нязграбна вылепленая з гліны, пафарбаваная ў стракатыя колеры. Пробашч, які быў занепакоены ўнутраным убранствам касцёла, хацеў замяніць гэтую статую, але парафіяне не згаджаліся. Казалі: “Мадонна не надта прыгожая, але гэта наша Мадонна”.**

**І вось наступіла свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Згодна са звычаем, у гэты дзень на вуліцы вёскі выходзіла працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам. Людзі спявалі песні, неслі харугвы, фігуры. Статуя Багародзіцы была вельмі цяжкай, таму яе везлі на вазку, запрэжаным канём. Вазок быў хісткім. Не найлепшай выдалася дарога. У дадатку да ўсяго пачаўся дождж. Святар паскорыў крокі, народ – за ім. Раптам усе заціхлі. Пачуўся спалоханы крык: “О, Мадонна! Мадонна!”. На выбоістай дарозе вазок падскочыў, і статуя Маці Божай рассыпалася на кавалкі. І тут на вачах прысутных адбылося дзіўнае відовішча. Сярод разбітых кавалкаў гліны паўстала прыгожая статуя Марыі, зробленая са срэбра, аздобленая каштоўнымі камянямі. Усе стаялі ашаломленыя. Гэта ж цуд! З вялікай павагай статую Маці Божай перанеслі ў касцёл.**

**Пробашч адразу напісаў пра гэтае здарэнне біскупу. Хутка прыйшоў адказ: “Каля ста гадоў таму адзін багаты чалавек ахвяраваў у вашу парафію каштоўную статую Маці Божай. Але неўзабаве для вернікаў настаў цяжкія часы. Касцёлы абрабоўвалі, разбуралі алтары, фігуры. І тады парафіяне «схавалі» статую Маці Божай. Як можаце здагадацца, людзі абляпілі яе глінай, распісалі стракатымі колерамі. А калі статуя разбілася, то вярнула сабе першапачатковы выгляд”.**

Каб крочыць за Езусам, мы павінны па прыкладзе Марыі імкнуцца быць прыгожымі, перадусім, унутрана. Гэта вельмі падабаецца Богу.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**разам з бацькамі падрыхтуй у доме маленькія яслі і падчас Адвэнту кладзі ў іх папяровыя сэрцы, дзе будуць запісаны здзейсненыя Табой добрыя ўчынкі. Гэтымі сэрцамі на свята можаш упрыгожыць ялінку.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.**

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды госцяць супакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця. Жадаем, каб Анёл-ахоўнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях. Дзякуем за добрае сэрца, мудрыя парады і тое, што Вы з намі.

*Закрыстыянін Здзіслаў, моладзь, дзеці, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды госцяць супакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця. Жадаем бязмежнай радасці, плёну ў святарскай працы. Няхай святы Заступнік апекуецца Вамі, а Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці адорваюць любоўю і асвячаюць кожны дзень душпастырскай паслугі. Дзякуем Богу за тое, што Вы з намі!

*Вернікі з парафіі Луконіца*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды ва ўсім дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух штодзённа адорвае сваімі дарамі.

*З павагай і малітвай, сям’я Дубатоўка з Курыловічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Веславу Дамброўскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, сілы і стойкасці ў выкананні нялёгкай паслугі, апекі Маці Божай і святога Заступніка на кожны дзень жыцця, а таксама шмат Божых ласкаў.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Дворэц*

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, супакою, нястомнасці ў душпастырскай працы на кожны дзень. Заўсёды будзьце ахоплены промнямі Божай міласэрнасці, ласкай і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных віншаванняў. Жадаем патрэбных ласкаў ад Усемагутнага, апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, а таксама мудрасці, чуласці і натхнення на кожны дзень жыцця. Няхай святарская паслуга прыносіць багаты плён. Аддзяч, Божа!

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць паселяцца ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем шмат здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові. Дзякуем за чуласць, велікадушнасць, увагу, цяпло, якое дорыце нам. Мы падтрымаем Вас сваёй малітвай!

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанай Сястры Мірыям Пэцнік**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, радасці, моцнай веры і надзеі, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай Маці Божая заўсёды Цябе асцерагае, а Святы Дух адорвае самі ласкамі.

*Мама, Віка і сёстры назарэтанкі з Навагрудка*

**Паважаны Ксёндз Павел Звяжынскі!**

Ад усяго сэрца хочам выказаць падзяку за апеку і клопат аб нас – дзецях і моладзі. Вельмі прыемна і ўтульна зараз будзе займацца ў катэхетычных класах, якія Вы для нас падрыхтавалі: светлых, цёплых, добра абсталяваных. Разумеем, колькі здароўя, часу, сілы, цярпення і вытрымкі гэта Вам каштавала. Бязмерна ўдзячныя, што забяспечылі нас добрымі ўмовамі для вучобы. Аддзяч Божа!

*З малітвай, дзеці, моладзь, бацькі і катэхеткі з парафіі св. Юрыя ў Варнянах*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці, нязгаснага запалу ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом, цеплынёй і дабрынёй свайго сэрца. Няхай Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, усмешку і малітвы. У нашых малітвах просім міласэрнага Айца, каб узнагародзіў Вас за ўсё дабро.

*Парафіяне з Поразава і Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Бураку**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, цярплівасці ў душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць прыязнасцю і зычлівасцю, а Маці Божая атуляе плашчом сваёй любові і нястомна Вамі апекуецца.

*З малітвай і павагай, вернікі парафіі Лаздуны*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог блаславяе, шчодра адорвае патрэбнымі ласкамі, памнажае Вашу веру і напаўняе сэрца любоўю, радасцю і супакоем, каб сваім святарскім жыццём Вы маглі сведчыць аб Божым Валадарстве на гэтай зямлі. Няхай Святы Дух умацоўвае Вас мудрасцю да рэалізацыі Божых планаў, а Найсвяцейшая Маці атуляе сваім плашчом і вядзе да святасці. Дзякуем Вам за зычлівасць і адкрытае сэрца.

*Малітоўная група Найсвяцейшай Панны Марыі, Гродна-Аўгустовак*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6245; тыраж 4945; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная